www.nv-online.info

№ 6 (4155)

20 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЭГІЁН

## Бацька і сын за кратамі

***У Маладзечанскім раёне затрыманы дырэктар аграфірмы «Лебедзева» Аркадзій Асіповіч са сваім сынам Віталіем – кіраўніком фермерскай гаспадаркі. Абодва знаходзяцца ў следчым ізалятары.***

Аграфірма "Лебедзева" – дзяржаўнае прадпрыемства, філіял «Мінскэнерга". У раёне на добрым рахунку.

– *Аркадзія Міхайлавіча ад пасады афіцыйна ніхто не адхіляў*, – расказалі нам на прадпрыемстве. – *Для нас яго арышт – шок. Ён добры гаспадарнік, наша аграфірма – адна з лепшых у раёне. Па надоях займаем першае месца. Здаём у суткі 28,8 тоны малака! Сярэдні заробак па прадпрыемстве за мінулы год склаў 690 рублёў. Дзе яшчэ ў вёсках могуць такімі зарплатамі пахваліцца?!*

Аднак, паводле версіі следчых, бацька з сынам дзейнічалі па папярэдняй змове. Аграфірма без узгаднення з "Мінскэнерга" купляла ў фермерскай гаспадаркі корм для цялят і ў выніку пераплаціла за тавар 5600 рублёў. Гэта значыць, што бацька даў сыну незаконна зарабіць гэтыя грошы, а аграфірме, адпаведна, на гэтую суму быў нанесены матэрыяльны ўрон.

Затрыманым пагражае тэрмін ад двух да шасці гадоў пазбаўлення волі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Заняткі прапусцілі, каб акунуцца ў палонцы. Бог даруе!..





*Учора на Камсамольскім возеры, што ў Мінску, для работнікаў выратавальнай станцыі была гарачая пара.*

19 студзеня, на Вадохрышча, тут традыцыйна рыхтуюць палонкі для тых, хто жадае акунуцца ў ледзяную ваду. Зрэшты, зрабіць гэта можна было і днём раней, але ж асноўны паток – менавіта ў дзень свята.

З самага ранку на выратавальнай станцыі не сказаць каб шматлюдна, аднак палонка карыстаецца папулярнасцю. Да вады нават невялікая чарга. Побач – выратавальнікі, якія сочаць за тымі, хто дае нырца ў ледзяную ваду, і дапамагаюць парадамі.

– Як толькі зайшлі ў ваду па пояс, пастойце 2–3 секунды, – павучае адзін з іх. – І галоўнае – калі вырашыце акунуцца з галавой пад ваду, абавязкова пасля выдыхніце паветра. Але можаце і не даваць нырца, гэта ж не абавязкова.

Многія распранаюцца і рыхтуюцца да воднай працэдуры, дзяўчаты з гэтай нагоды баязліва вішчаць. Анжэла і Алеся – студэнткі БДУ – нават збеглі з заняткаў, каб акунуцца на Вадохрышча.

– У нас жа ўважлівая прычына, Бог даруе! – жартаўліва кажуць яны.

63-гадовы **Валянцін Сцяпанавіч Пліско** ў гэты дзень прыходзіць акунуцца ўжо трэці год запар.

– Я, шчыра кажучы, не надта веруючы чалавек, але апошнім часам вырашыў заняцца загартоўваннем, – распавядае ён, пакуль расцірае цела ручніком. – На Вадохрышча – цудоўная магчымасць сустрэцца з аднадумцамі, праверыць моц свайго духу. Увогуле, на свята нейкая своеасаблівая атмасфера. І вы ж паглядзіце, колькі людзей! 10 гадзін раніцы, а да палонкі – чарга. І старыя, і маладыя…

Тым часам выратавальнікі тактычна адганяюць ад вады асабліва надакучлівых фотакарэспандэнтаў.

– Зараз вас з вашымі камерамі прыйдзецца выцягваць з вады, – папярэджваюць яны. – А лепш распранайцеся і на сабе паспрабуйце, што гэта такое.

Пасля купання многія адразу ж грэліся гарачай гарбатай альбо кавай, якую загадзя прынеслі з сабой.

– А мяне жонка абяцала дома сагрэць, – смяецца 43-гадовы Андрэй. – Я наогул прайграў ёй адну спрэчку, а таму і давялося залезці ў ледзяную ваду. Але, як кажуць, усё акупіцца.

Старшыня клуба загартоўвання і зімовага плавання "Камсамольскае возера" **Уладзімір ШУЛЬГАН** усцешаны, што з кожным годам на Вадохрышча акунаецца ў ледзяных палонках усё больш беларусаў. Толькі ў Мінску такіх – каля 30 тысяч.

– Вадохрышча для мяне асаблівы дзень, і пачаўся ён яшчэ вечарам 18 студзеня, – распавядае Уладзімір Васільевіч. – Людзі ішлі акунуцца з 6 вечара і амаль да 2 гадзін ночы. Каля тысячы людзей за гэты час прайшло. У гэтым годзе народ куды больш актыўны ў гэтым плане. А я і 18 студзеня акунаўся ў палонцы, і на наступны дзень у 7 гадзін раніцы тэлевізіёншчыкі папрасілі мяне залезці ў ваду. Увогуле, лічу, што гэта нармальнае стаўленне людзей да свята і да свайго здароўя. Дарэчы, большая частка з іх прыйшла не ў першы раз – не трэба было ім распавядаць, як сябе неабходна паводзіць.

**– Колькі вы ўжо займаецеся загартоўваннем?**

– Больш за 15 гадоў. І за гэты час, адзначу, ні разу не хварэў. Нейкія прышчэпкі ад грыпу для мяне абсалютна неактуальныя. Калі ж загартаваны чалавек нечым і захварэе, то выздараўлівае ў два-тры разы хутчэй. Я, да слова, раней проста рабіў зарадку на Камсамольскім возеры, але аднойчы ўбачыў маржоў у палонцы, паспрабаваў сам, і з таго часу маё жыццё змянілася. Думаю, кожны, калі няма нейкіх вялікіх медыцынскіх супрацьпаказанняў, можа загартоўвацца ў ледзяной вадзе. Для гэтага трэба не так шмат – сіла волі і рэгулярныя заняткі.

**– Бачу, што сёння шмат моладзі прыходзіла…**

– Ведаеце, раней сярэдні ўзрост сябраў нашага клуба быў у межах 50 гадоў. Зараз – 30–40 гадоў іменш. І гэта нармальна, калі ў моладзі



з'яўляецца інтарэс да здаровага ладу жыцця, а ў сталых – да свайго здароўя. Акрамя таго, чаму б чалавеку і не паспрабаваць свае магчымасці? Можа быць, ён для сябе адкрые нейкія схаваныя рэзервы арганізма.

**– Пачынаць загартоўвацца можна ў любым узросце?**

– Вы ж дзяцей купаеце ў ванне з таго часу, як яны нарадзіліся. Дык чаму б адразу не пачаць іх загартоўваць? Толькі да гэтага трэба сур'ёзна паставіцца. Спачатку трэба заняцца халодным абціраннем дзіцяці, затым прывучыце яго да кантраснага душа, потым – прагулкі басанож. Адказна вам кажу: ваша дзіця не зведае, што такое таблеткі.

Зрэшты, займацца загартоўваннем можна ў любым узросце. Ніколі не позна. У нас у мінулым годзе афіцыйна з'явіўся новы від спорту – спартыўнае зімовае плаванне. У гэтым плане мы першыя ў свеце! Спаборніцтвы праходзяць па 13 узроставых катэгорыях. Ёсць і такая – 80 гадоў і старэйшыя. Так што ніякіх абмежаванняў.

**– А кажуць, што людзі ў нас сталі больш хваравітыя…**

– Я ўсім параіў бы адно: задумайцеся пра сваё здароўе і лад жыцця! Мне пастаянна задаюць адно і тое ж пытанне: "А якія ёсць супрацьпаказанні і могуць быць наступствы ад таго, што чалавек акунаецца ў палонку?" Дарагія мае, у нас людзі на чэмпіянаце па зімовым плаванні першы раз плылі ў ледзяной вадзе 100 метраў, і нічога – усе жывыя і здаровыя. Проста знайдзіце ў сабе сілы паверыць у сябе. Вы ж паглядзіце на твары тых, хто на Вадохрышча акунуўся ў палонку. Яны – шчаслівыя!..

**Алесь СІВЫ.**

Фота аўтара.

СТОП-КАДР

## За святой вадой…



*Учора ў Мінскі Свята-Духавы кафедральны сабор былі вялізныя чэргі.*

На Вадохрышча ўжо з самага ранку людзі займалі чаргу, каб набраць у саборы святой вады. Яна расцягнулася амаль да станцыі метро, і людзям даводзілася стаяць амаль па паўгадзіны.

*"Такая сітуацыя штогод*, – распавялі мне служачыя сабора. – *У маленькіх цэрквах, безумоўна, чэргі былі меншыя".*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**
Фота аўтара.

БЛІЦ

# Белстат: валавы ўнутраны прадукт у 2016 годзе знізіўся на 2,6 працэнта

*Крытычна гэта для Беларусі ці не?*

**Сяргей Чалы, эканаміст:**

– Што значыць "крытычна"? Падзенне не смяротнае, але адчувальнае.

Што такое ВУП? Гэта сумарны кошт усіх выраблених тавараў і паслуг за год у эканоміцы. Простымі словамі – гэта ўсё, што зроблена на тэрыторыі нашай краіны, у грашовым эквіваленце. Падзенне ВУП сведчыць пра тое, што зніжаецца грашовая выручка прадпрыемстваў, кампаній, фірмаў, памяншаюцца прыбыткі нацкапітала і памяншаюцца даходы ад працы, адпаведна падае зарплата і спажывецкі попыт. Яшчэ адно сведчанне такой тэндэнцыі – узровень жыцця ў краіне зніжаецца.

На мой погляд, беларусы яшчэ да канца не ўсвядомілі, што адбылося. Магчыма, таму, што народ верыць у тое, што гэты крызіс, як і ўсе папярэднія, не надоўга, хутка адбудзецца аднаўленне даходаў, тым больш што заробак у 500 долараў ужо паабяцалі. Але, на самай справе, цяперашні крызіс якраз-такі адрозніваецца ад усіх папярэдніх тым, што ён паказаў, чаго вартая беларуская эканоміка без знешніх спецэфектаў, штучнага стымулявання. Высветлілася, што эфектыўнасць беларускай эканомікі вельмі нізкая, што сярэдні заробак у межах 340–350 долараў – гэта і ёсць узровень канкурэнтаздольнасці нашай эканомікі.

**Анатоль Трухановіч, бізнесмен, старшыня Беларускага саюза падаткаплацельшчыкаў:**

– Крытычная сама тэндэнцыя. А ўлічваючы тое, што ў Беларусі такі паказчык, як ВУП на душу насельніцтва, адзін з горшых у Еўропе, то падстаў для аптымізму і зусім няма.

ВУП на аднаго чалавека – гэта адзін з паказчыкаў дабрабыту краіны, а мы прайграём усім краінам Еўропы, акрамя Малдовы. У 2016 годзе нават ва Украіне, дзе працягваюцца ваенныя дзеянні, ВУП на душу насельніцтва быў вышэйшы, чым у нас. Там рост, сельская гаспадарка ў плюсах! Аграрны сектар Украіны даў 4,8 млрд долараў прыбытку. І гэта ваюючая краіна. Думаю, у іх і ў эканоміцы сітуацыя будзе паляпшацца, таму што ва Украіне свабода бізнесу, свабода слова.

**Васіль Шлындзікаў, старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Вярхоўнага Савета 13-га склікання:**

– Гэта не зусім крытычна, ад гэтага мы не памром. Але тое, што другі год запар ВУП зніжаецца, насцярожвае. Тым больш што няма аб'ектыўных перадумоў спадзявацца на тое, што падзенне вось-вось спыніцца і пачнецца рост эканомікі ў 2017 годзе. А гэта пагроза глыбокага эканамічнага крызісу.

Прычыны падзення відавочныя. Тармозіць рэформы ўнутраная палітыка. Многія прадпрыемствы, асабліва ў аграрным сектары, застылі ў савецкім часе, а ўлады не даюць іх мадэрнізаваць. Ручное кіраванне, бясконцыя ўказы, няма стабільнасці, таму людзі баяцца развіваць свой бізнес. Другая прычына – знешняя, звязаная з расійскай агрэсіўнай палітыкай, якая прывяла да санкцый. Крызіс у Расіі імгненна адбіўся на эканоміцы Беларусі.

**Вадзім Іосуб, старшы фінансавы аналітык кампаніі «Альпары»:**

– Тут усё вельмі проста: рост ВУП – гэта добра, моцны рост – гэта вельмі добра, і адпаведна падзенне – дрэнна. Падзенне на 2,6 працэнта – амаль небяспечна, 2,6 – лічба вялікая. Але што асабліва трывожна, дык гэта тое, што ВУП падае другі год запар, і, нягледзячы на ўсе аптымістычныя афіцыйныя прагнозы, падзенне можа працягнуцца і ў 2017 годзе. Праўда, бачна запавольванне тэмпаў падзення: у 2015 годзе ВУП Беларусі ўпаў на 3,8 працэнта, у 2016-м – на 2,6, прагнозы міжнародных экспертаў і незалежных эканамістаў на 2017-ы – 0,5–1 працэнт. Але ўсё роўна гэта падзенне. І калі прагноз спраўдзіцца, Беларусь можа апынуцца ў лідарах: сёння у свеце няма ніводнай краіны, эканоміка якой падала б тры гады запар! Дзесьці войны, недзе рэвалюцыі, у нас – астравок стабільнасці, але пры гэтым тры гады запар падае ВУП.

**Міхаіл Шруб, кіраўнік сялянскай гаспадаркі з Жыткавіцкага раёна:**

– Я не такі вялікі эксперт, каб рабіць заключэнні: крытычна гэта ці не крытычна. А вось, што гэтае падзенне, мяркуючы па ўсім, не спыніцца і ў 2017 годзе, – дрэнна. Я не бачу мер, якія прапаноўваліся б і якія пераканаўча сведчылі б пра аднаўленне тэмпаў росту ВУП. А раз дынаміка адмоўная, то гэта можа стаць сапраўды крытычна. Праўда, наўрад ці для ўсёй эканомікі ў цэлым, але калі стануць нежыццяздольнымі некаторыя лёсавызначальныя прадпрыемствы, ці, не дай бог, галіны – гэта крытычна.

Што тычыцца сельскай гаспадаркі, то аграрны сектар адчувае сябе дрэнна, некаторыя прыросты валавой вытворчасці па асобных галінах фактычна сітуацыю не мяняюць, таму што ўзровень эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці ўжо даўно за крытычнай адзнакай.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЮРИДИЧЕСКАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Гарри ПОГОНЯЙЛО,
председатель юридической комиссии РПОО «Белорусский Хельсинкский комитет»

# Неконституционный декрет

В обществе не утихает критика декрета президента от 2 апреля 2015 года «О предупреждении социального иждивенчества» (далее – декрет). Вводя декрет, правительство, по озвученным чиновниками разных ведомств данным, рассчитывало обложить дополнительным налогом в 20 базовых величин от 400 тысяч до 450 тысяч граждан трудоспособного возраста.

Напомним, пунктом 1 декрета установлено, что *«граждане Республики Беларусь, иностранные граждане и лица без гражданства, получившие разрешение на постоянное проживание в Республике Беларусь, в случае их неучастия в финансировании государственных расходов или участия в таком финансировании менее 183 календарных дней в налоговом периоде признаются плательщиками сбора на финансирование государственных расходов»*. Неуплата сбора влечет административную ответственность в виде штрафа или ареста до 15 суток. Фискальная мера, по мнению чиновников, призвана наполнить худеющий белорусский бюджет.

Недавно начальник управления Министерства по налогам и сборам Марина Поболь сообщила, что к декабрю 2016 года извещения на уплату сбора на финансирование государственных расходов направлены более чем 70 тыс. граждан. При этом около 15 тыс. граждан доказали свое право на освобождение от уплаты сбора. Заметим, не государственные органы должны были четко определить и знать, с кого следует взыскать сбор, а граждане, поставленные в позу виноватых, должны доказать сотрудникам налоговых органов, что они не подпадают под обложение. Классический пример бюрократии: когда нет четких и продуманных правил, действует чиновничье усмотрение – «что хочу, то и ворочу».

Администрирование декретом (в народе его прозвали «о тунеядцах») столь загромождено процедурами, что можно смело утверждать: его выполнение потребует расходов из бюджета на гораздо большую сумму, чем фискальные органы смогут взыскать. Кроме сбора персональных данных о «тунеядцах» для целей декрета каждому потенциальному плательщику сбора территориальная налоговая инспекция направит извещение установленного образца с просьбой предоставить сведения *«о неучастии в финансировании государственных расходов или участии в таком финансировании менее 183 календарных дней в налоговом периоде»* (вручат извещение лично под роспись плательщика сбора или направят его заказным письмом).

Получившие извещение граждане в течение 30 календарных дней со дня его вручения вправе представить в налоговый орган свои пояснения и документы об отсутствии у них обязанности по уплате сбора. Затем в соответствии с установленным порядком граждане вправе в месячный срок обжаловать в вышестоящий налоговый орган (областные, Минская городская ИМНС) действия налогового органа, потребовавшего уплаты сбора, затем – в Министерство по налогам и сборам. Не получив удовлетворительного результата, граждане в месячный срок вправе обжаловать действия налоговых служб в один из территориальных судов по месту нахождения одного из налоговых органов. (Образцы обращений, жалоб размещены на интернет-сайте РПОО «Белорусский Хельсинкский комитет» www.belhelcom.org.) На период обжалования действий налоговиков по уплате сбора до разрешения жалобы по существу обязанность по его уплате приостанавливается. Необходимо помнить, что сбор на основании извещения уплачивается не позднее 30 календарных дней со дня вручения извещения или со дня, когда извещение считается врученным.

Правозащитные организации, в частности Белорусский Хельсинкский комитет, независимые профсоюзы, другие общественные организации, оценили нормы декрета как неконституционные и ведут целенаправленную работу по его отмене. Мы готовы помогать гражданам в отстаивании их прав, если они сочтут, что с ними поступают незаконно. Наша принципиальная позиция основана на положениях Конституции Республики Беларусь (далее – Конституция) и тех общепризнанных принципах и стандартах международного права, которые должны обеспечиваться в национальном законодательстве Беларуси и на практике.

Граждане в переписке с государственными органами и в связи с обжалованием их действий могут использовать следующие правовые аргументы.

1. Статья 41 Конституции провозгласила, что гражданам Республики Беларусь гарантируется право на труд как наиболее достойный способ самоутверждения человека, то есть право на выбор профессии, рода занятий и работы в соответствии с призванием, способностями, образованием, профессиональной подготовкой и с учетом общественных потребностей, а также на здоровые и безопасные условия труда. **Принудительный труд запрещается – закреплено в части 4 статьи 41 Конституции**. Аналогичный запрет содержится в статье 13 Трудового кодекса Республики Беларусь (далее – ТК).

*(Окончание на 2-й стр.)*

## СУББОТА, 28 ЯНВАРЯ

### Беларусь 1

**06.10** «Існасць».
**06.35, 21.40 «Сразу после сотворения мира».** Сериал.
**08.30** «Крупным планом».
**09.00, 12.00, 15.00** «Новости».
**09.10** «Клуб редакторов».
**09.50 «Сваты-4».** Сериал.
**10.55** «50 рецептов первого».
**11.40** «Специальный репортаж».
**12.10** «Истории ремонта».
**12.45** «Здоровье».
**13.30, 15.45 «Вместо нее».** Сериал.
**15.15** «Краіна».
**21.00** «Панорама».
**01.25** «День спорта».

### Беларусь 2

**07.05** «Друзья ангелов». Мультфильм.
**07.50 «Гензель и Гретель».** Х/ф.
**08.50, 22.05** «Тэлебарометр».
**08.55 «Счастливы вместе-4».** Сериал.
**10.40** «Печать царя Соломона». Мультфильм.
**12.05** «Раздолбаи».
**13.15** «Мир наизнанку».
**14.15** «Барышня-крестьянка».
**15.20** «Копейка в копейку».
**16.10 «Моя большая греческая свадьба».** Х/ф.
**17.50** «Репортер».
**18.40** «Битва экстрасенсов. 14-й сезон».
**20.40** «Свадьба вслепую».
**22.00** «Спортлото 6 из 49», «КЕНО».
**22.10** «Верните мне красоту».
**23.20 «Бросок кобры-2».** Х/ф.

### Беларусь 3

**07.40** «Сіла веры».
**08.05** «Беларуская кухня».
**08.30, 12.50, 20.20** «Калейдаскоп».
**08.45 «Блізня».** М/ф.
**10.35** «Край».
**11.00** «Размаўляем па-беларуску».
**11.35** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**12.00** «Камертон».
**12.25** «Навукаманія».
**13.10** «Тэатр у дэталях».
**13.35** «Подых струн».
**14.15** «Эти глаза напротив».
**15.40 «Дрэнны добры чалавек».** М/ф.
**17.15** «Знак лёсу».
**18.10 «Вазьму твой боль».** М/ф.
**19.30** «Па хвалях нашай памяці».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Апошні дзень». «Віктар Цой».
**21.40 «Іголка».** М/ф.
**23.00 «Яна».** Спектакль.
**23.40** Мультфільмы.

### Беларусь 5

**08.00, 22.30** «PRO-спорт. Новости».
**08.10, 09.40, 19.20, 20.05** Биатлон. Чемпионат Еропы.
**11.25** «Пит-стоп».
**11.55, 14.55** Биатлон. Чемпионат Европы. Гонка преследования. Прямая трансляция.
**12.50** Баскетбол. Евролига.
**15.45** «Женщины и спорт».
**16.15** «Нокаут-раунд».
**16.45** «Овертайм».
**16.55** Хоккей. КХЛ. «Динамо» (Минск) – «Барыс» (Астана). Прямая трансляция (в перерывах – «Овертайм»).
**20.55** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. ½ финала.
**22.40** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Матч за 3-е место. Прямая трансляция.

### ОНТ

**07.00** «Субботнее утро».
**08.00, 09.00, 16.00, 20.30** «Наши новости».
**09.05** «Смешарики. Новые приключения».
**09.25** «Здорвье».
**10.30** «Смак».
**11.15** «Идеальный ремонт».
**12.15** «Умницы и умники».
**13.05** «Юморинка».
**13.20** «Удачу в придачу!» с «Евроопт».
**14.05 «Приключения Паддингтона».** Х/ф.
**16.15, 21.00** «Новости спорта».
**16.20** «Теория заговора».
**18.00** «Кто хочет стать миллионером?».
**19.00** Концерт Наташи Королевой.
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.35** «Подмосковные вечера».
**23.30 «Обещание».** Х/ф.

### РТР-Беларусь

**07.00** «Комната смеха».
**08.15 «Следствие ведут знатоки: из жизни фруктов».** Х/ф.
**11.00, 14.00, 20.00** «Вести».
**11.20** «Живые истории».
**12.10** «Семейный альбом».
**13.00** «Наше дело».
**13.15** «Пешком...».
**14.15 «Укради меня».** Сериал.
**17.25** «Субботний вечер».
**19.00** «Картина мира».
**19.55** «Погода на неделю».
**20.55** «Измайловский парк».
**22.40 «Приговор идеальной пары».** Сериал.

### НТВ-Беларусь

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00, 08.20 «Адвокат».** Сериал.
**08.00, 10.00, 14.00, 16.00** «Сегодня».
**08.45** «Их нравы».
**09.15** «Устами младенца».
**10.25** «Главная дорога».
**11.10** «Еда живая и мертвая».
**12.10** «Квартирный вопрос».
**13.20** «Удача в придачу!».
**14.15** «Двойные стандарты».
**15.10 «ЧС – чрезвычайная ситуация».** Сериал.
**16.20** «Однажды...».
**17.05** «Секрет на миллион».
**19.00** «Центральное телевидение».
**20.00** «Ты не поверишь!».
**20.50 «Поезд на север».** Сериал.
**00.05** «Живые легенды».

### СТВ

**06.45 «Чудаки».** Х/ф.
**08.05** «Анфас».
**08.20 «Вернись ко мне».** Х/ф.
**10.20** «Ремонт по-честному».
**11.00** «Минск и минчане».
**11.30** «М и Ж».
**11.50, 17.50** «Документальный проект».
**13.30, 16.30, 19.30** «24 часа».
**13.40** «Открытый разговор».
**13.55, 23.50 «Суета сует».** Х/ф.
**15.30** «Дальние родственники».
**15.55** «Большой город».
**16.40** Концерт Михаила Задорнова.
**20.00** «СТВ спорт».
**20.10 «Участок лейтенанта Качуры».** Сериал.

### Мир

**06.00, 01.25 «Легальный допинг».** Сериал.
**07.10, 05.40** Мультфильмы.
**08.00** «Союзники».
**08.25** «Я – волонтер».
**09.00** «Ой, мамочки!».
**09.30** «Медицинская правда».
**10.00, 16.00** «Новости».
**10.15** «Сделано в СССР».
**10.45 «Гараж».** Х/ф.
**12.40** «Любимые актеры».
**13.10** «Бремя обеда».
**13.40 «Деньги на двоих».** Х/ф.
**16.15 «Нина».** Сериал.
**23.30 «Знак судьбы».** Х/ф.

### Россия Культура

**06.30** «Евроньюс».
**10.00** «Библейский сюжет».
**10.35 «Серафим Полубес и другие жители Земли».** Х/ф.
**12.00** «Острова».
**12.45** «На этой неделе... 100 лет назад. Нефронтовые заметки».
**13.15 «Ужасные родители».** Х/ф.
**15.00 «Роковое влечение».** Спектакль.
**17.00** «Новости культуры».
**17.30** «Линия жизни». К 85-летию со дня рождения Р.Казаковой.
**18.25, 01.55** «История моды».
**19.20 «С вечера до полудня».** Х/ф.
**21.35** «Романтика романса».
**22.35 «Страна теней».** Х/ф.
**00.40** Сольный концерт Жака Лусье.
**01.30** Мультфильмы для взрослых.
**02.50** «Харун-аль-Рашид».

### Белсат

**07.00, 08.25** «Студыя «Белсат».
**07.35** «Размова дня».
**07.55** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Наваградскія замкі».
**08.10** «Сведкі»: «Першыя змагарныя гады незалежнасці».
**09.55, 21.00, 00.25** «Аб’ектыў».
**10.20, 13.10, 00.45** «ПраСвет».
**10.55** «Фільм са страшнай назвай». Мультсерыял.
**11.05** «Дзіўны свет ката Філімона». Мультсерыял.
**11.15** «Прыгоды ката Філімона». Мультсерыял.
**11.25 «Таямніца Сагалі».** Серыял.
**11.50** «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
**11.55** «Мова нанова»: «Міхал Казімір Агінскі».
**12.15** «Асабісты капітал».
**12.40** «Два на два».
**13.45** «Хадаркоўскі». Д/ф.
**15.40 «Дом».** Серыял.
**17.10** «Рэпартэр».
**17.30** «Над Нёмнам».
**17.45 «Пракурор».** Серыял.
**18.30** «Праз вечнасць». Д/ф.
**19.50** «Зона «Свабоды».
**20.30** Belsat Music LIVE.
**21.15** «Форум»: «Забараніць словы».
**22.00 «Наркагандаль».** М/ф.
**01.20** «Кабарэ смерці». Д/ф.
**03.00** «Зоры не спяць».

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 29 ЯНВАРЯ

### Беларусь 1

**06.35 «Сразу после сотворения мира».** Сериал.
**08.30** «Народное утро».
**09.00, 12.00, 15.00** «Новости».
**09.10** «Арсенал».
**09.40 «Сваты-4».** Сериал.
**10.50** «50 рецептов первого».
**11.40** «Специальный репортаж».
**12.10** «Новости. Центральный регион».
**12.35** «Коробка передач».
**13.10 «Красотка».** Х/ф.
**15.15** «Твой город».
**15.30** «Вокруг планеты».
**16.15** «Тайны следствия».
**16.50 «Избранница».** Сериал.
**20.35** «Навіны надвор’я».
**21.00** «Главный эфир».
**22.10 «Тариф на прошлое».** Сериал.

### Беларусь 2

**07.05** «Друзья ангелов». Мультфильм.
**07.50 «Умная дочь крестьянина».** Х/ф.
**08.50, 21.00** «Тэлебарометр».
**08.55** «Раздолбаи».
**10.05** «Мир наизнанку».
**11.05 «Моя большая греческая свадьба».** Х/ф.
**12.45 «Мой домашний динозавр».** Х/ф.
**14.35** «Любовь онлайн».
**15.45** «Универ-шеф».
**16.20** «Онлайн. Вне сети».
**16.50** «Печать царя Соломона». Мультфильм.
**18.15** «Понять и обезвредить».
**18.50 «Бросок кобры-2».** Х/ф.
**20.40** «Два рубля».
**21.30, 22.05** «Папа попал».
**22.00** «Спортлото 5 из 36», «КЕНО».
**00.05 «Superнянь-2».** Х/ф.

### Беларусь 3

**07.35** «Беларуская кухня».
**08.00, 12.45, 20.25** «Калейдаскоп».
**08.15 «Вазьму твой боль».** М/ф.
**09.40** «Музеі Беларусі».
**10.05** «Наперад у мінулае».
**10.30** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.25** «Выйсце ёсць».
**11.50** «Вечары ў Маладзечне».
**13.00** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**13.25** «Шлягеры назаўжды».
**15.00 «Шэрлак Холмс і здарэнне ля вадаспада Вікторыя».** М/ф.
**18.10 «Дрэнны добры чалавек».** М/ф.
**19.45** «Апошні дзень». «Віктар Цой».
**20.40** «Калыханка».
**21.05 «Блізня».** М/ф.
**22.50** «Навукаманія».
**23.15** «Мои года – мое богатство». Вечар памяці кампазітара Георгія Маўсясяна.

### Беларусь 5

**08.00, 22.00** «PRO-спорт. Новости».
**08.10, 09.00, 18.15, 22.10** Биатлон. Чемпионат Европы.
**09.50** Легкая атлетика. Мировой тур-2017. Бостон.
**11.55, 14.55** Биатлон. Чемпионат Европы. Прямая трансляция.
**12.55** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. «Лидсельмаш» (Лида) – «Дорожник» (Фаниполь). Прямая трансляция.
**16.35** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Матч за 3-е место.
**19.25** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Финал. Прямая трансляция.
**21.30** «Хоккей для всех».

### ОНТ

**07.00** «Воскресное утро».
**08.00, 09.00, 16.00** «Наши новости».
**09.05** «Воскресная проповедь».
**09.20** «Смешарики. ПИН-код».
**09.40** «Непутевые заметки».
**10.00** «Пока все дома».
**10.55** «Фазенда».
**11.30** «Открытие Китая».
**12.05 «Перехват».** Х/ф.
**13.40** «Валерий Ободзинский. «Вот и свела судьба...».
**14.40 «Вертикаль».** Х/ф.
**16.15** «Новости спорта».
**16.20 «Стряпуха».** Х/ф.
**17.35** «Владимир Высоцкий. «Я не верю судьбе...».
**18.35, 21.05** «Голосящий КиВиН».
**22.50** «В.Высоцкий. «Своя колея».
**00.30 «Четвертый».** Х/ф.

### РТР-Беларусь

**07.00, 13.20** «Комната смеха».
**07.30 «Приговор идеальной пары».** Сериал.
**11.00, 14.00, 20.00** «Вести».
**11.20** «Сам себе режиссер».
**12.10** «Смехопанорама».
**12.40** «Утренняя почта».
**14.15** «Смеяться разрешается».
**16.45 «Соната для Веры».** Сериал.
**21.45 «Китайский Новый год».** Х/ф.
**23.20** «Воскресный вечер».

### НТВ-Беларусь

**06.10** «Астропрогноз».
**06.15, 08.20 «Адвокат».** Сериал.
**08.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**08.50** «Их нравы».
**09.25** «Едим дома».
**10.25** «Первая передача».
**11.05** «Чудо техники».
**12.05** «Дачный ответ».
**13.10** «НашПотребНадзор».
**14.15** «Тоже люди».
**15.10 «ЧС – чрезвычайная ситуация».** Сериал.
**16.20** «Следствие вели...».
**18.05** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели».
**20.25 «Из жизни капитана Черняева».** Сериал.
**23.45** «Таинственная Россия».

### СТВ

**06.05, 08.10, 11.40, 13.40, 20.25** «День военной тайны».
**07.45** «Добро пожаловаться».
**10.30, 16.50** «Автопанорама».
**11.00** «Большой завтрак».
**13.30, 16.30** «24 часа».
**14.30, 00.00 «Где находится нофелет?».** Х/ф.
**16.00** «Центральный регион».
**17.20** «Военная тайна».
**19.30** «Неделя».
**22.10 «Сомнение».** Х/ф.

### Мир

**06.00** «Миллион вопросов о природе».
**06.15** «Такие странные».
**06.45, 08.55** Мультфильмы.
**08.00** «Культ/Туризм».
**08.30** «Беларусь сегодня».
**09.30** «Почему я?».
**10.00, 16.00** «Новости».
**10.15 «Подстава».** Сериал.
**13.35** «Звезда в подарок».
**14.05 «Месть пушистых».** Х/ф.
**16.15, 22.00 «Маша в законе-2».** Сериал.
**21.00** «Вместе».
**00.45 «Нина».** Сериал.

### Россия Культура

**06.30** «Евроньюс».
**10.00** «Обыкновенный концерт».
**10.35, 23.50 «Любить...».** Х/ф.
**11.50** «Легенды кино».
**12.15** «Россия, любовь моя!».
**12.45** «Кто там...».
**13.10, 01.00** «Дельфины – гепарды морских глубин».
**14.05** «Что делать?».
**14.50** «Музыка нашего кино».
**16.10** «Гении и злодеи».
**16.40, 01.55** «Искатели».
**17.25** «Пешком...».
**17.55** Центральный военный оркестр Министерства обороны Российской Федерации.
**18.50 «Светлый путь».** Х/ф.
**20.25** «Мой серебряный шар».
**21.10 «Забавная мордашка».** Х/ф.
**22.55** «Ближний круг».
**02.40** «Мировые сокровища».

### Белсат

**07.00, 21.00, 00.35** «Аб’ектыў».
**07.15** «ПраСвет».
**07.50** «Гісторыя пад знакам «Пагоні».
**07.55** «Фільм са страшнай назвай». Мультсерыял.
**08.05** «Дзіўны свет ката Філімона». Мультсерыял.
**08.15** «Прыгоды ката Філімона». Мультсерыял.
**08.25** «Між намі, буслvolamі». Мультсерыял.
**08.50** «Пінгвінік Пік-Пок». Мультсерыял.
**09.00 «Таямніца Сагалі».** Серыял.
**09.25** «Сведкі»: «Першыя змагарныя гады незалежнасці».
**09.45** «Рэпартэр».
**10.05** «Над Нёмнам».
**10.20** «Зона «Свабоды».
**10.55** «Маю права».
**11.20** «Форум»: «Забараніць словы».
**12.05** «Людскія справы».
**12.35** «Загадкі беларускай гісторыі»: «Наваградскія замкі».
**12.55** «Прыват»: «Дзе знайсці матывацыю беларускаму пенсіянеру».
**13.20, 21.15** Belsat Music LIVE.
**13.45** «Праз вечнасць». Д/ф.
**15.05, 23.50 «Пракурор».** Серыял.
**15.50 «Наркагандаль».** М/ф.
**18.15** «Кулінарныя падарожжы Роберта Макловіча».
**18.45** «Мова нанова»: «Зімовыя хваробы».
**19.05** «Эксперт».
**19.30** «Невядомая Беларусь»: «Партрэт». Д/ф.
**20.10** «Горад затопленых багоў». Д/ф.
**21.40** «Кінаклуб»: «Вівіен Амсалем хоча развесціся».
**21.55 «Вівіен Амсалем хоча развесціся».** М/ф.
**00.50 «Адна вайна».** М/ф.

ПРЭМ’ЕРА!

Таццяна МАРХЕЛЬ:

# «Хай праз слёзы, тугу, але пра гэта трэба гаварыць...»

*Народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель закінула ўсе справы і рыхтуецца да чарговай прэм’еры, якая адбудзецца сёння,* ***20 студзеня,*** *у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. З назвы спектакля “Беларусь. Дыдактыка” зразумець нічога немагчыма, але, са слоў Таццяны Рыгораўны, гэта вельмі шчыры, амаль інтымны спектакль, які павінен паглядзець кожны, хто шукае шлях да сябе, да сваіх каранёў, да Беларусі.*



“Я напалову рускі, напалову беларус, – *прызнаецца рэжысёр-пастаноўшчык спектакля* ***Аляксандр Марчанка.*** – І мой шлях да беларускасці быў даволі доўгі. Я вывучаў беларускую мову і беларускую літаратуру, хаця вырас у рускай вёсцы, з рускай бабуляй. Адчуванне непаўторнасці беларускай мовы з’явілася толькі тады, калі я пачуў песні, якія спявае Таццяна Рыгораўна і Дзіма Лук’янчык”.

***Таццяна Мархель*** *прапанавала назваць спектакль “Дарога да сябе”.*

– Бо слова “дыдактыка” – я і сама яго, па шчырасці, не вельмі добра разумею, – *распавяла “Народнай Волі” вядомая артыстка.* – Ну і як глядач пойдзе на такую назву? Але рэжысёр перакананы, што назва нармальная. Таму мой варыянт пакінулі ў дужках.

Калісьці, яшчэ значна раней таго, як з’явілася ідэя гэтага спектакля, Саша Марчанка браў у мяне шмат інтэрв’ю, на аснове якіх драматург Дзмітрый Багаслаўскі напісаў п’есу, літаральна па маім жыцці. Я тады прачытала яе і падумала: “Божа, так адкрывацца нельга, гэта нават грэх нейкі, такім быць адкрытым”, – і адмовілася, не дазволіла гэта ставіць на сцэне. Безумоўна, яны мяне зразумелі, і праз некаторы час Саша падаў новую ідэю такога ж шчырага, адкрытага праекта, пачаў расказваць сваё бачанне спектакля “Беларусь. Дыдактыка”. Зноў мне было неяк няёмка і нязручна. Ну як гэта сваё асабістае выносіць на сцэну? Аднак, калі паглыбіцца ў думкі, ісці ад узросту, жыццёвага вопыту – і я ж таксама стараюся нешта браць ад людзей, якіх сустракаю, якія для мяне штосьці новае адкрываюць і штосьці асабістае кажуць, штосьці тое, што для іх саміх з’яўляецца патаемным і важным.

Памятаю, калі яшчэ працавала ў Віцебску, мы ладзілі вечарыны на падмурку твораў Быкава, Барадуліна, Бураўкіна. І вось чытаеш і думаеш: яны ж дзяліліся ў творах сваімі самымі патаемнымі думкамі, чаму ж гэта я не магу падзяліцца чымсьці такім?

Тыя ж песні нашы беларускія, якія будуць гучаць у спектаклі, – гэта таксама ў нейкай ступені маё асабістае, інтымнае. Песні, якія я буду выконваць, спявала мая матуля. Я слухала гэтыя песні ў дзяцінстве і ніколі не думала, што гэта штосьці такое дзіўнае, каштоўнае. Для мяне гэта было наша звычайнае, натуральнае жыццё.

Памятаю, калі бацька не вярнуўся з фронту, мама шмат плакала. А потым усё роўна спявала, бо душа прасіла. Ідзе са жніва – пяе, гатуе – пяе, вяселле на вёсцы – пяе. Пад усё, што б ні рабіла, спявала.

Мне добра запомніўся момант, калі мяне ўпершыню папрасілі праспяваць нашы з мамай песні ў спектаклі. Я тады працавала ў Віцебску, і мы рыхтаваліся да юбілею Якуба Коласа, ставілі “Сымона-музыку”, наш рэжысёр Валерый Мазынскі падышоў да мяне і кажа: “Што ты там сама сабе маміны песні спяваеш? Ну паспявай у спектаклі!” Гэта такое дзіва было для мяне! А потым пачала і адчуваю: неяк усё сышлося.

Другі раз я здзівілася, калі мне прапанавалі запісаць некалькі песень да фільма “Людзі на балоце”. Запісвалі тады дзве песні мы восем гадзін. Памятаю, як мне казалі: спявай, каб гукі ляцелі над зямлёй гэтай – высока, шырока, над балотамі, над сенажацямі, каб адчувалася, якая ў нас цудоўная зямля, на якой жывуць прыгожыя людзі, героі Мележа. Аператар зняў прыгожыя краявіды, і песні выдатна ляглі на кадры.

*У спектаклі Таццяна Мархель будзе не толькі спяваць, але і чытаць урыўкі з твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў.*

– Я выбірала тое, што блізка мне самой, што грэе душу, – *гаворыць Таццяна Рыгораўна.* – Буду чытаць урыўкі з “Сымона-музыкі”, прамову Кастуся Каліноўскага, якую напісаў Караткевіч: “Вялікі мой народ, зямля мая, гняздо пакут, змагання і свабоды, я толькі што памёр. І ў гэты час аддаў табе, зямля, сябе самога”. Нягледзячы на тое, што гэта паэзія, падчас здаецца, што гэта вельмі высокія словы, якія ты проста не маеш маральнага права прамовіць...

Такі доўгі шлях да сябе, да Беларусі, вельмі цікавы, складаны, няпросты, але, я думаю, хай праз слёзы, тугу, але пра гэта трэба гаварыць. І варта адкрывацца перад людзьмі. Не саромецца і распавядаць пра перажытае. Каб прыйшла моладзь, паслухала, зразумела, што ёсць у нас наш падмурак, тое, на чым можна стаяць, можна будаваць нешта новае, развіваць і ісці далей. Хочацца, каб яны гэта ведалі, разумелі, таму што гэта наш скарб, які зацікаўлівае і іншыя народы. Тое, што менавіта наша, не сцягнутае з некага, не перапевы чужыя, не перамовы чужыя, не словы чужыя, а менавіта наша, беларускае. Сваё!

ЗАПРАШЭННЕ

## На гарбату – да Мархель!

*29 студзеня сустрэча з народнай артысткай Беларусі Таццянай Мархель адбудзецца ў сталічнай краме “Вкусночай”.*

– Я ведаю, што такая сустрэча рыхтуецца і буду вельмі рада ўсім, хто прыйдзе і задасць мне свае пытанні, – *сказала Таццяна Рыгораўна “Народнай Волі”.* – Але на сённяшні дзень я так занята падрыхтоўкай да прэм’еры, што проста думаць ні пра што больш не магу! Усе справы закінула, жыву ад рэпетыцыі да рэпетыцыі! Мне вельмі хочацца, каб атрымалася. Баюся сурочыць, але, дзякуй Богу, усё складваецца...

Прыходзьце на прэм’еру!

**Марына КОКТЫШ.**

УСЛУГИ

**Доставка к дому продуктов, прием из дома макулатуры, стеклотары и др.**
*Тел.: (8-025) 961-11-87 (Life), (8-033) 661-11-87 (МТС), (8-044) 761-11-87 (Velcom).*
ИП Лахаданов В.М. УНП 192680247 Свидетельство от 21.07.2016.

**Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com**
**тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 328-66-09**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.01.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 570 экз. Заказ № 79.

9 772071 964000 17006

ЧУЛІ?

## У спектаклі пра Высоцкага сыграе беларуска

*Прэм’ера, у якой задзейнічана Вера ШПАК, адбудзецца 25 студзеня – у дзень нараджэння паэта.*

Спектакль «Высоцкі. Нараджэнне легенды» ў пастаноўцы Сяргея Бязрукава стане першай прэм’ерай года Маскоўскага Губернскага тэатра. Уладзімір Высоцкі памёр у 1980 годзе, але, нягледзячы на час, яго творчасць актуальна і запатрабавана сёння.

Адну з роляў у музычным спектаклі выконвае беларуска Вера Шпак.

– *Гэта будзе паўнавартасны спектакль у дзвюх дзеях,* – сказала «Народнай Волі» актрыса Маскоўскага Губернскага тэатра. – *З аркестрам мы выконваем песні Уладзіміра Сямёнавіча, чытаем вершы, успаміны людзей, якія былі з ім побач. Матэрыялу для працы пра такога чалавека, вядома, больш чым дастаткова. У спектаклі я не толькі спяваю песні Высоцкага: з іншымі акцёрамі мы разам расказваем пра яго жыццё. Нягледзячы на тое, што пакуль усё знаходзіцца ў актыўнай працы, думаю, што спектакль атрымаецца душэўным і захапляльным, бо жыццё і творчасць Высоцкага – гэта цэлая эпоха.*

Паводле слоў Веры Шпак, падчас працы над спектаклем Сяргей Бязрукаў хацеў, каб эмоцыі і творчасць Высоцкага акцёры «прапускалі праз сябе».

– *Думаю, нам гэта ўдалося,* – дадае наша суайчынніца. – *Высоцкі – гэта прыклад таго, як трэба гарэць на сцэне, іграць сумленна і не шкадаваць сябе.*

**З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ**

Актрыса Вера Шпак нарадзілася ў Мінску.

У 2013 годзе скончыла Школу-студыю МХАТ, курс Канстанціна Райкіна.

У 2013–2014 гадах працавала ў Александрынскім тэатры ў Санкт-Пецярбургу.

З 2014 года – актрыса Маскоўскага Губернскага тэатра.

Здымалася ў карцінах «Часова недаступны», «Чума», «Чорная кошка» «Апошні ход каралевы» і іншых.

Жыве і працуе ў Маскве.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**